№ 5 [20] ТРАВЕНЬ 1949 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ведай, верай, надзеяй і любоўю да лепшае будучыні.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

| Цана нумару 40 фр. | Адрас рэдакцыі: Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6). Chèque Postal : Paris c. 628744. | Падпісная цана на год 350 фр. |
|---|---|---|

# Маці

Калі ў штодзеннай мове пачуем слова маці бяз ніякіх іншых дадаткаў, звычайна тады ўстае перад вачыма абраз роднае маці. Але не адна яна атуляе чалавека сваім мацярынствам, хоць яно ў асобе роднае маці найбольш ˇвідавочнае, найбольш адчувальнае. Ёсьць яшчэ іншыя асобы і рэчы, да якіх зьвяртаюцца з гэтым пачэсным імемем. Зямля-маці, бацькаўшчына-маці, родная маці, Нябесная Маці — вось той пачэсны рад імёнаў, якія ня вымаўляюцца абыяк.

Зямля-маці — яна адна для ўсіх дае матэрыю на наша цела і носіць нас ўсіх на сабе. Прыгожая яна вясеньняю красою, багатая яна восенскім ураджаем, магутная яна віхравеямі і навальніцамі, таёмная яна ў сваіх недасьледжаных нетрах і глыбінях акіянаў, гордая яна ў сваіх вяршынях небасяжных гораў, пяшчотная яна ў сваіх мурожных лугох і рознаколерных нівах — але і зрадлівая-ж яна! Прыкоўвае чалавека да сябе і асьляпляе яго сваім багацьцем, сваімі зямнымі роскашамі, яна стараецца завалодаць чалавекам непадзельна і ўсякімі спосабамі ўхітраецца спрычыніць забыцьцё тае праўды, што чалавек на зямлі толькі недаўгавечны госьць; што толькі пераходам спыняецца ён тут некалькі дзесяткаў гадоў. Па сьмерці забірае яна людзкое цела і хутка зьніштажае яго быццам са злосьці, што найважнейшая частка чалавека — ягоная душа не давялася ёй.

Бацькаўшчына-маці больш чула адносіцца да чалавека. Яна захоўвае і перадае наступным пакаленьням усе традыцыі бацькоў, перахоўвае ўсе цэмэнтуючыя вязі між людзьмі, якія з адзінак твораць народ; ствараe асаблівыя ўмовы для жыцьця большае сям'і — дзяржавы. Але і вымагае яна для сябе ад чалавека нямала. Няраз кажа зрачыся ўласных выгадаў, а ў цяжкіх хвілінах нават жыцьця вымагае ад найлепшых сваіх сыноў. Затое доўга перахоўвае курганы, якія пакрываюць іх косьці быццам тыя жамчужыны ў целе жамчужніцы і дбае аб іх незабыўнай славе. Нябачнымі ніткамі лучыць яна сэрца чалавека з сваімі лясамі, барамі, палямі, балотамі, вёскамі і гарадамі.

Родная маці, якая ў болях пускае нас на сьвет, з бязьмежнаю ахвярнасьцю ўзгадоўвае і даглядае сваё дзіця — ёсьць сымбалем усяго таго найлепшага, што ёсьць у чалавеку. Сваі найшляхатнейшыя і найбольш чулыя пачуцьці мастакі, паэты і пісьменьнікі заўсёды стараліся выказаць праз абраз роднае маці. Яна ўсё сваё жыцьцё прысьвечвае дзіцяці — радуецца ягонаю радасьцю, сумуе ягоным сумам. Першае гора, якое чалавек перажывае адзін, гэта тое, калі родная маці зьляжа ў дамавіне. Любоў роднае маці да дзяцей ня ведае межаў, яна сама хутчэй згодзіцца пайсьці на сьмерць, чым бачыць сьмерць дзіцяці. Нажаль яе сілы — толькі сілы чалавека. У няшчасьці і горы дзіцяці, дзе нічога ня могуць зрабіць яе абмежаваныя сілы, ліе яна горкія сьлёзы і бездапаможна заломлівае рукі, ды шукае мацнейшае помачы.

Нябесная Маці нябачна ўздымаецца над зямлёю, бацькаўшчынаю, народам, сям'ёю і над кожным чалавекам з асобна. З Божае волі Яна ёсьць Маткаю ўсіх людзей. Ісус Хрыстос уміраючы на крыжы перадаў увесь людзкі род у асобе Івана Багаслова сваёй Маці ў яе мацярынскую

апеку. Ад таго часу нязьлічаныя Божыя ласкі сплываюць на людзей праз Яе непарочныя рукі. Дзе канчаюцца людзкія магчымасьці, дзе пачынаецца людзкая слабасьць, дзе зямныя сілы пагубна накідаюцца на чалавека — там Богамаці стае нябачна нам на помач з усім тым багацьцем ласк, якімі Бог абсыпае Яе, бо з волі Божае Яна ёсьць пасрэдніцаю Ягоных ласкаў.

Дзеля вынятковага становішча Багародзіцы ў адносінах да Ісуса, Яна займае асаблівае становішча ў сьв. Царкве. Часам нават можна пачуць розныя закіды пад адрэсам Царквы ў зьвязку з гэтым становішчам, быццам Багародзіцу паважаюць, як Бога. Гэта няпраўды. Выказваюць гэты закід толькі тыя, хто ня ведае нічога аб тым, што ёсьць розныя спосабы пашаны. Бога людзі забавязаны шанаваць культам так званае адарацыі, або інакш лятрыі. Гэта спэцыяльныя словы, якіх нельга ператлумачыць дзеля іх дакладнага сэнсу, і якія служаць для абазначэньня пашаны разумнага стварэньня да свайго Створцы ад нікога і ні ад чаго незалежнага. Затое сьвятыя маюць толькі культ пашаны, паколькі яны агулам маюць нейкія дачыненьні да Бога. Гэта значыць, што паважаючы іх, маем на мэце выказаць сваю пашану да Бога. А Божая Маці мае асаблівы культ пашаны, як найбольшая між сьвятымі. Пра адарацыю тут аднак мовы быць ня можа, бо й гэты культ, як сваю апошнюю мэту мае Бога. Зьвяртаемся да Багародзіцы, каб Яна занесла нашы малітвы перад пасад Усявышняга і ўзмоцніла іх сваімі просьбамі і тым самым зрабіла іх больш годнымі выслуханьня. У гэткім дусе і ўложаны малітвы да Багародзіцы, як гэта выразна відаць з аднае песьні ў малебне: «Праслаўная Вечнадзева Багародзіца (Марыя Маці Хрыста Бога нашага), прымі малітвы нашыя і данясі іх Сыну Твайму і Богу нашаму, каб дзеля Цябе спас (і прасьвяціў) душы нашыя».



Аб тым як глыбока такая пашана адказвае людзкому сэрцу, як яна аблягчае шлях да Бога, сьведчаць нязьлічаныя сьвятыні ў імя Багародзіцы, нязьлічаныя Яе абразы ў кожнай хрысьціянскай сям'і. У нас на Беларусі ня было ніводнае хрысьціянскае хаты, дзе-б ня было Яе сьвятога абразу.

Пашана да Божае Маці мае ня толькі збаўчае значэньне ў адносінах да спасеньня душы, яна мае так-жа аграмадны ўплыў на дачаснае жыцьцё агулам. У меру таго, як пранікала між людзей сьведамасьць іх дзіцячае залежнасьці ад Божае Маці — лагаднелі старыя тыранскія законы і звычаі, акелзваліся дзікія гоны людзкога сэрца, узрастала любоў. Дзеля гэтага недаверкі ўсіх часоў і памоцныя ім розныя цёмныя сілы накідаліся з рознымі закідамі супраць Багародзіцы, бо Яе асоба ім вельмі непадарозе.

Але затое для вернікаў усіх часоў, усіх народаў, Багародзіца ёсьць найясьнейшаю постацьцю, найбліжэйшаю асобаю, да якое могуць зьвяртацца з усімі сваімі найтайнейшымі радасьцямі і няшчасьцямі, і знайсьці ў Яе суцяшэньне і помач.

З Божае волі неадзін перадчасна траціць родную маці, разлучаецца сіламоц з бацькаўшчынаю, але нідзе і ніколі ніякая сіла ня можа разлучыць чалавека ад Нябеснае Маці. Нават тыя, якія аб Ёй забываюцца, горш таго, якія ганьбяць Яе, не перастаюць быць Яе дзяцьмі і сваімі няпаслухамі і грахамі глыбока раніць Яе мацярынскае сэрца.

У Каталіцкай Царкве месяц травень спэцыяльна прызначаны для пашаны Багародзіцы, а сёлета нават увесь 1949 г. прызначаны быць Марыйскім годам, каб годна падрыхтавацца да Сьвятога Году, якім абвешчаны 1950 г. і адначасна, каб вымаліць у Бога ласку, перамагчы тыя цёмныя сілы, якія з усіх бакоў накіраваліся на Хрыстову Царкву.

Мы, беларуская эміграцыя, пазбаўленыя бацькаўшчыны-маці і ў бальшыні роднае маці, калі яна яшчэ і жыве за зялезнаю заслонаю, мусім памятаць, што ад Нябеснае Маці ніякіх заслонаў няма. Нябесная Валадарка беларускага народу Жыровіцкая Багародзіца, прасьцягае сваю апякунчую руку над нашай шматпакутнай бацькаўшчынай і над кожным з нас, як-бы мы далёка не расьсяваліся ад межаў свае бацькаўшчыны. Ня боймася дакучаць Ёй сваімі просьбамі, яна нам ніколі не адмовіць помычы, выпрасіць у Бога ласку іх ажыцьцяўленьня.

**а. Лазар.**

**«УСЁ, ШТО ХОЧАЦЕ, КАБ ВАМ РАБІЛІ ЛЮДЗІ, ДЫК ТОЕ РАБЕЦЕ І ВЫ ІМ; БО ГЭТА ЗАКОН І ПРАРОКІ» (Мац. VII, 12).**

# Эвангельлі

Сьвятыя кнігі Новага Запавету, якія зьяўляюцца найважнейшымі пісанымі дакумантамі хрысьціянскае веры заўсёды былі для адных людзей жаралом узмацненьня веры, а для другіх — прадметам розных напасьцяў.

Асабліва было шмат стараньняў з розных бакоў, каб падкапаць павагу сьвятых Эвангельляў — найважнейшых гістарычных крыніц аб жыцьці і дзейнасьці нашага Збаўцы. Але ў канчатковым выніку з гэтымі нападамі паўтарылася тое самае, што і з нападамі на самога Ісуса Хрыста. Як расьпяцьце Хрыста прывяло да сьветлага ўваскрасеньня, так закіды супраць Эвангельляў прычыніліся да яскравага выяўленьня праўдзівасьці і праўдамоўнасьці гэтых-жа Эвангельляў.

Ня будзем тут пералічаць усіх тых стараньняў, якія мелі на мэце падкапаць павагу Эвангельляў, бо яны ў бальшыні такія беспадстаўныя, што самі недаверкі выказалі іх недарэчнасьць і адкінулі. А тыя, якія яшчэ пакутуюць у некаторых асяродзьдзях у бальшыні фантастычныя і пярэчаць адна другой. Аднак найбольш пашыраны закід супраць Эвангельляў, які найчасьцей даводзіцца яшчэ і цяпер пачуць, гэта быццам яны паўсталі шмат пазьней, ад датаў прынятых у Царкве, пераносячы іх паўстаньне на канец другога веку нашае эры; і другое, што быццам іхны зьмест не адкавваe запраўднасьці.

Таму, што найчасьцей шукаюць «доказаў» супраць Эвангельляў, тыя людзі, якія за ўсякую цану хочуць, каб Хрыста ня было, або лепш кажучы, каб ня было вечнае кары-пекла, якою Хрыстос пагражаў усім злачынцам, дык цяжка такіх людзей пераканаць у памылковасьці іхных пошукаў, бо-ж яны ў бальшыні выпадкаў сьведама шукаюць фальшу, каб супакоіць сваё нячыстае сумленьне, дзеля гэтага і не для іх прызначаюцца гэтыя радкі.

Аднак у сучасны век крытыцызму і панадкрытыцызму нават людзям найлепшае волі, найвярнейшаму верніку даводзіцца больш і дакладней, чым калісьці, ведаць аб сваім веравызнаньні, каб магчы і самому яго бараніць і іншых павучыць. У гэтай справе асабліва важна ведаць, хоць некаторыя навуковыя даныя датычна Эвангельляў. Умысна падчыркваецца слова некаторыя даныя, бо сёньня пытаньне Эвангельляў так шырока распрацавана, навокал яго паўстала такая аграмадная літаратура, што, падаць у форме аднаго артыкулу канцовыя выснаўкі, да якіх гэтыя досьледы дайшлі, — ніяк немагчыма; дзеля гэтага прыходзіцца абмяжавацца толькі да найважнейшых падсумаваньняў.

Доказаў аб праўдзівасьці і праўдамоўнасьці Эвангельляў ёсьць шмат так унутранага, як і вонкавага характару адносна ўсіх Эвангельляў разам і адносна кожнага паасобку.

Перш некалькі важнейшых даных адносна кожнага Эвангельля:

Эвангельле паводля Мацея, якое маем сёньня, ёсьць перакладам на грэцкую мову з першапачатковага арамайскага тэксту напісанага ап. Мацеям каля 44 г. Аднак той першы тэкст не захаваўся, але аб ім сьведчаць шматлікія жыдоўскія словы і звароты ў сучасным грэцкім тэксьце і сьв. айцы Царквы з першае палавіны другога веку. Перакладаў было даўней некалькі, той, які цяпер агульна прыняты паўстаў між 60-70 г. Прызначана яно было ў першую чаргу для жыдоў і таму зьвяртае асаблівую ўвагу на спаўненьне прароцтваў

Эвангельле паводля Марка ёсьць скаротам навукі ап. Пятра. Напісаў яго вучань ап. Пятра Марко на просьбу вернікаў наверненых з паганства і прызначанае для іх. Напісана яно каля 65, або 68 г., хутка пасьля сьмерці ап. Пятра.

Эвангельле паводля Лукі напісана сябрам і спадарожнікам ап. Паула лекарам Лукою перад 67 г. і прызначана для асьвечаных грэкаў.

Эвангельле паводля Івана напісана праўдападобна вучнем ап. Івана, сына Завядзеявага, пад дыктоўку самога апостала ўканцы першага стагодзьдзя. Гэта проста ўспамін любімага апостала аб сваім настаўніку пераважна з Ерузалімскіх часоў і падзеяў, аб якіх няпоўна гаварылася ў іншых Эвангельлях.

Ува ўсіх Эвангельлях, а найбольш у Мацея, часта падчыркваецца, што ў асобе Хрыста споўніліся ўсе прароцтвы, даныя Богам патрыярхам і прарокам аб Мэсіі. І запраўды, ня было да Хрыста і ня было пасьля Хрыста такога чалавека, да якога-б гэныя прароцтвы адносіліся, хоць у дробнай меры. А Хрыстос усім сваім жыцьцём і ўчынкамі выконваў мэсыянскія прароцтвы і пацьвярджаў гэта выразна сваім словам: «Цяпер выпаўнілася пісаньне гэтае (прароцтва Ісаіі аб Мэсіі) у вушах вашых» (Лук. 4, 21), казаў Ён да жыдоў у сынагозе.

На пацьверджаньне свайго Боскага пасланства Хрыстос рабіў шматлікія цуды, якія можа рабіць толькі Бог. Ён адным словам спыняў буру, высушваў дрэва, уваскрашаў памёршых; ужо ня кажучы аб нязьлічаных аздараўленьнях. Некаторыя з гэтых цудаў жыдоўскія старшыні дакладна спраўджвалі, праводзілі самае строгае дазнаньне, як напр.: пасьля аздараўленьня сьлепанароджанага ў Ерузаліме (Іван гл. 9).

Усе факты паданыя ў Эвангельлях зусім адказваюць гістарычнай праўдзе; дзяржаўныя, грамадзкія абставіны, характэрыстыка асобаў, дух часу — усё гэта з найбольшаю дакладнасьцю быццам жыўцом узята з Палестыны часоў

Хрыста, як гэта пацьвярджаюць навейшыя досьледы. Пазьнейшыя аўтары гэтага ніяк не маглі-б зрабіць, бо ў 70 г. Ерузалім быў збураны і грамадзкія ды народныя адносіны шмат у чым зьмяніліся.

У Эвангельлях ёсьць шмат такіх драбніц, якіх ніводзін пазьнейшы аўтар ня мог ведаць. Напрыклад у апакрыфічных творах з другога веку ўжо гэткіх драбніц не спатыкаецца.

Але паганскі дух нашага часу мае найбольшы давер да паганскіх пісаньняў і таму часта пытаецца і заўзята шукае, што паганскія гісторыкі сказалі аб Хрысьце? Праўды яны сказалі няшмат, але і не адмаўчаліся. Яны найбольш забівалі хрысьціян і вынішчвалі іх, як небясьпечных ворагаў і самазразумела, што аб гэткіх «гэройствах» над нявіннымі ня мелі адвагі хваліцца.

Калі аднак хрысьціян было зашмат, каб іх усіх маглі вынішчыць, дык тады часам пыталіся; што рабіць з імі. Напрыклад Пліній Малодшы, прыяцель імпэратара Траяна і адначасна легат гэтага-ж імпэратара ў правінцыі Бітыні, ў адным з сваіх лістоў к. 112 г.. пытаўся пасяброўску ў імпэратара, што рабіць з хрысьціянамі, якіх было шмат у той правінцыі. Пры гэтым апісвае тагачасныя Хрысьціянскія звычаі, як яны «маюць звычай зьбірацца ў азначаных днёх перад усходам сонца, каб па-пераменна пяяць гымны на чэсьць Хрыста, якога яны ўважаюць за Бога і забавязваюцца не рабіць нічога дрэннага... пасьля чаго яны разыходзяцца, каб пабрацку пажывіцца». Гэты ліст сьведчыць аб тым, што тагачасныя рымскія ўлады былі нязгорш паінфармаваныя аб хрысьціянах і аб самым Хрысьце.

Гісторык Тацыт, які між 115-117 г. напісаў свае «Анналы», апавядаючы аб пажары Рыму ў 64 г., кажа, што Нэрон віну за гэты пажар прыпісаў хрысьціянам і выясьняе, што іх «імя паходзіць ад Хрыста, якога аддаў на мукі Понцій Пілат за часоў панаваньня Тыбэрыя. Здушаны на нейкі час гэты абдырлівы забабон, зноў, прабіваецца ня толькі ў Юдэі, дзе гэтае зло нарадзілася, але так-жа і ў Рыме, дзе ўсякі наплыў жахлівага і ганебнага знайходзіць шматлікіх пасьлядоўнікаў».

Гісторык Суэтон у сваім творы «Жыцьцё імпэратараў» апавядае, што імпэратар Кляўдый у 51-52 гадох «выгнаў жыдоў з Рыму, таму што яны заўсёды выклікалі розныя беспарадкі дзеля Хрэста» Няма сумніву, што Хрэстос, гэта ня хто іншы, як Хрыстос.

Той-жа самы Суэтон, апісваючы жыцьцё Нэрона (гл. 16), кажа. што Нэрон «накладаў мукі на хрысьціян, людзей, якія прызнавалі новы і шкодны забабон».

Гэтыя сьведчаньні, як відаць з паданых пры іх датах, паходзяць з дваццатых гадоў другога стагодзьдзя. Старэйшых успамінаў аб Хрысьце ў паганскіх творах да гэтага часу ня знойдзена, але яны бадайшто і немагчымыя з двох прычын: папершае, што прылюдная дзейнасьць Хрыста трывала ўсяго тры гады і да таго прайходзіла выключна ў Палестыне, далёкай і глухой правінцыі для Рыму і Грэцыі; а падругое: тады ня было шмат гісторыкаў. Па-за ўспомненымі двумя яшчэ толькі Плутарх (жыў між 45-120) заслугоўваў-бы на ўвагу, але ён найбольш цікавіўся жыцьцяпісамі «слаўных людзей», якіх Рым уважаў за гэрояў, а тых, каго прасьледавалі, ён абмінаў моўчанкаю, таму аб Хрысьце дарэмна ў яго шукаць вестак.

Усё гэта аданк зьяўляецца толькі пабочнымі і пасрэднымі доказамі на карысьць Эвангельляў. Найважнейшымі доказамі былі раней і астануцца заўсёды самыя Эвангельлі. Насупраць усякім спадзяваньням і дагадкам паволі знайходзяцца штораз старэйшыя рукапісы Сьвятога Пісаньня, якія найлепш пацьвярджаюць навуку сьв. Царквы аб Сьв. Пісаньні. Да мінулага году гэткімі найстарэйшымі рукапісамі ўважаліся кодэксы: Ватыканскі і Сінайскі, абодва з IV в., але вось не далей, як летась знойдзены папірусны рукапіс Эвангельля Івана з другога веку; якраз таго Эвангельля, аўтэнтычнасьць якога найбольш аспрэчваецца і самае напісаньне сілаю гвалтам перасоўвалася на пазьнейшы час. Незадоўга пасьля гэтае знаходкі зьявілася другая, ня менш вартасная; ў тым-жа 1948 г. знойдзена рукапіс з другога веку перад Хр. з прароцтвам Ісаіі. І вось адна знаходка разьбіла ў пух усе мудрагельствы недаверкаў.

Агулам да сёньняшняга дня ведама больш 4.000 рукапісаў з арыгінальным грэцкім тэкстам толькі для Новага Запавету. З іх 170 напісаны на папірусе, іншыя пераважна на пэргамэнце; 200 напісаны маюскуламі, 2.429 — мінускаламі і 1.678 знайходзіцца па частках у літургічных кнігах. Акрамя самога грэцкага тэксту ёсьць шматлікія старыя пераклады, якія дакладна перадаюць першапачаткавы тэкст, не гаворачы ўжо аб нязьлічаных цытатах з Эвангельляў у пісаньнях сьв. Айцоў Царквы.

Сёньня ёсьць дакладныя крытычныя выданьні Сьв. Пісаньня, ў якіх дасьледжана кожнае найменшае слова першапачатнага тэксту і ў выніку гэтага даведваемся, што толькі адна восьмая частка слоў Сьв. Пісаньня належыць да так званых варыянтаў, але з іх толькі адна тысячная частка можа быць залічана да тых, што становяць большую розьніцу, аднак і гэтыя розьніцы не такія, каб зьмянялі асноўнае значэньне тых сказаў, дзе яны спатыкаюцца.

Маючы гэткі аграмадны даказовы матэрыял нязьменнасьці Сьв. Пісаньня, маючы доказы такога дбайлівага перахоўваньня з найдаўнейшых часоў, — ці-ж можна ў добрай веры мець нейкі недавер да яго?

**а. Леў.**

# ТЫ І ЯНА

РАЗЬДЗЕЛ 2.

(Працяг 4-ы).

## БОЖЫЯ ПРЫКАЗАНЬНІ.

Цяпер мы разумеем значэньне і неабходную патрэбу Божых прыказаньняў. Яны нам тавораць ня што іншае, як толькі тое, што: «Тваім абавязкам ёсьць завалодаць плоцьнымі гонамі, каб імі карыстацца выключна ў законным сужэнстве з іхняй мэтай прызначэньня, а па-за тым захаваць чыстасьць!»

Дабравольнае ўжываньне плоцьнае роскашы і смага за ёю перад сужэнствам ёсьць чужалоствам і нячыстасьцю, а тым самым цяжкім грахом, як таксама грахом ёсьць усё тое, што пабуджае плоцьныя пачуцьці і выклікае жарсьць (за выняткам толькі тых выпадкаў, калі гэткія пабуджэньні робяцца бяз грэшнага намеру і з канечнасьці ды не атрымоўваюць згоды волі). Грахом ёсьць так-жа ўсё тое, што робіцца з мэтаю выклікаць плоцьную роскаш.

Думкай грэшыцца супраць чыстасьці, калі сьведама падтрымліваецца жаданьне ўчыніць штосьці нячыстае, або калі адчуваецца задаваленьне і радасьць дзеля споўненых у мінулым нячыстых грахоў, а так-жа тады, калі памяць і фантазію сьведама і дабравольна затрымоўваецца на прадметах, якія выклікаюць грэшныя пажаданьні і грэшныя пачуцьці.

Размовы зьяўляюцца грахом супраць чыстасьці тады, калі іх вядзецца з намеранай прыемнасьцю на тэму недазволенай сэксуальнай роскашы, або з мэтай пабудзіць у іншых падобнае пачуцьцё, а так-жа тады, калі гутарка аб плоцьных справах ня ёсьць неабходнаю і можа выклікаць у яе ўдзельнікаў небясьпеку нячыстай прыемнасьці. Адгэтуль ня цяжка кожнаму зрабіць выснаў аб тым, калі і якія позіркі, кніжкі, танцы, прадстаўленьні кіна ці тэатру і пад. зьяўляюцца праступствам супраць чыстасьці.

Згодна з Хрыстовымі словамі: «Кожны, хто глядзіць на жанчыну, каб пажадаць яе, ужо грашыць з ёю ў сэрцы сваім» (Мат. 5, 28), — дапускаецца граху нячыстасьці той, хто на толькі паддаецца змысловым нахілам да асобы іншае плоці, што жадае мець яе ў недазволены спосаб. Гэта ёсьць выразны грэх супраць Божага прыказаньня: «Не пажадай».

У плоцьных дачыненьнях цяжка дакладна правесьці разьмежаваньне паміж цяжкім (сьмяротным) грахом і лёгкім, асабліва тады, калі-б нехта хацеў гэткае разьмежаваньне выкарыстаць на тое, каб у гэтай галіне пайсьці на пэўныя ўступствы. Дзе як дзе, але тут мае аграмаднае значэньне стары кліч: «Не паддавайся спачатку!» Або інакш: «Будзь асьцярожны з агнём!» Гэтая асьцярога мае нязвычайна глыбокі сэнс, бо зьвяртае ўвагу на тыя людзкія слабасьці, у якіх шматлікія пры ўсёй добрай волі стараючыся ня зграшыць, пад напорам гвалтоўных спакусаў няраз упадаюць, дык што тады казаць пра людзей, якія ня маюць непахісных жыцьцёвых прынцыпаў; яны ніякім чынам не ўсьцерагуцца ад цяжкіх праступстваў. Плоцьныя гоны на толькі моцныя, што было-б самадурствам перш іх крыху здаволіць, а пасьля жадаць паўстрымаць іх, як на каманду. Шмат упадкаў людзей з добрай воляй тлумачыцца тым, што неасьцярожна загульвалі з пачаткавымі адрухамі нізкіх гонаў і нахілаў, а ў наступстве, калі гоны адазваліся з усею сілаю, не знайшлі ў сабе толькі моцы, каб ім супрацьставіцца.

Пад адрэсам чысьціні можна часам пачуць сказ, што паўстрыманасьць плоцьных гонаў шкодзіць здароўю, што такое абмежаваньне цела кепска ўплывае на нэрвы і пад. На пацьверджаньне падобнае думкі спасылаюцца на вырваныя сказы дактароў мэдыцыны.

Зразумела, што там і сям раз'яранасьць плоцьнага гону можа быць прыкрым, а нават часам можа перашкаджаць у працы і занятках, аднак ніводзін сумленны лекар ня скажа, што тыя прамінаючыя зьявы запраўды могуць пашкодзіць здароўю. Наадварот, — задаваленьне гэтых нахілаў ёсьць шкодным для цела, а перадусім яно вельмі аслабляе волю. Але колькі ёсьць на сьвеце прафэсыяў, выконваньне якіх зьвязана з шматлікімі нявыгодамі, а нават шкодна дзеючых на здароўе! Хто аднак прызнаў-бы слушнасьць лекару, які пакліканы ноччу да цяжка хворага заявіў-бы, што ён туды пайсьці ня можа, бо перарваць ночны сон, шкодзіць ягонаму здароўю?

Памінаючы пэўныя нявыгоды, ня можна давесьці, што існуюць нейкія шкодныя для здароўя наступствы ад чыстага і паўстрыманага жыцьця. Цэлы рад найвыдатнейшых лекароў і вучоных станоўка цьвердзіць, што нічога ня ведае аб існаваньні гэткіх шкодаў. Спаміж шматлікіх выказаў прывядзём хаця некалькі.

Д-р. мэд. В. Говэрс, лекар унівэрсытэцкага шпіталю ў Лёндане, заяўляе: «З усёю сілаю майго дасьведчаньня і павагі цьверджу, што ніколі ніякі чалавек ня меў ніякае карыснасьці з непаўстрыманасьці, ані так-жа ня меў ніякай шкоды з паўстрыманага жыцьця».

Ведамы нарвэскі пісьменьнік Бьёрнсон кажа: «Я перакананы, што ад паўстрыманасьці ніхто не хварэў, але затое напэўна хварэла шмат тых, хто ўсьцяж патураў свайму сэксуалізму».

Д-р мэд. Мэй: «На працягу мае 30-годняе

вельмі шырокае практыкі я меў нагоду спатыкаць ахвяраў ад здаваленьня плоцьных гонаў, аднак ніколі не знашоў ніводнага такога, які-б захварэў ад цноты паўстрыманасьці».

Мэдычны раднік д-р Шмітц кажа: «Дагадка, што няўжываньне плоцьных органаў у якіколечы спосаб шкодна адбіваецца на здароўі, на нічым не абаснаваная, бо дасьведчаньне паказвае, што чыстае жыцьцё нежанатых зьяўляецца прынамся таксама даўгавечным і чорствым, як і тых, што жывуць у сужэнстве».

Праф. мэд. д-р. Рюбнэр: «Зусім памылковай ёсьць думка тых, якія цьвердзяць, быццам з нявыкананьня плоцьных функцыяў могуць быць нейкія шкодныя вынікі».

Д-р. Тутон: «Ніколі не заўважана якойколечы хваробы паходзячай з плоцьнай паўстрыманасьці».

Д-р. Актон: Абсалютная паўстрыманасьць ёсьць магчымай і павінна захоўвацца маладымі людзьмі перад сужэнствам бяз ніякай крыўды для здароўя».

Праф., д-р Фурмэр: «У неадпаведны і лёгкадумны спосаб гаварылася аб небясьпеках паўстрыманасьці для маладога мужчыны. Я мушу прызнацца, што калі-б гэткія небясьпекі існавалі, я, як лекар, мусіў-бы іх ведаць і напаткаць, тымчасам я іх ня ведаю, ані ніколі іх ня мог сьцьвердзіць, хаця меў ня рэдкую нагоду да назіраньня ў гэтай галіне».

Праф. мэд., д-р фон Штайнэн: «Паўстрыманасьць ня ёсьць шкоднай, — наадварот, яна ёсьць крыніцай выдатнага разьвіцьця сільнае волі і вельмі карыснаю для здабыцьця прафэсыі».

Д-р. мэд. Якобсон у скароце падае адказ пяцісот трыццаці выдатных прафэсароў мэдыцыны на анкету аб вартасьці паўстрыманага жыцьця: «Моладзь павінна сьцерагчы чыстасьць, каторая ніякім спосабам ёй не пашкодзіць, наадварот — прынясе ёй толькі карысьць. Захоўваючы чыстасьць і ухіляючыся ад усялякіх плоцьных зносінаў перад сужэнствам, моладзь спрычыніцца да ўтрыманьня на адпаведнай вышыні ідэалу любові, а сама ўсьцеражэцца вэнэрычных хваробаў».

Д-р. Оппэнгайм: «Нават дарослы юнак павінен заўсёды трымацца прынцыпу, што ўсякі ўзрух плоцьнага гону трэба ў сабе перамагаць бяз ніякіх адгаворак і то аж да брамы сужэнства».

Праф. д-р мэд. Форэль: «У нармальных абставінах нармальнага маладога чалавека, каторы духова, а таксама і фізычна, бадзёра працуе, пры гэтым ухіляецца ад штучных пабуджэньняў перадусім наркотыкаў, якія аслабляюць волю і інтэлект (алкаголь і пад.) — плоцьная паўстрыманасьць не належыць да немагчымых зьяваў».

Праф. Рыбінг: «На працягу мае дваццацігадовае лекарскае практыкі я сустракаўся з людзьмі, асабліва маладымі, з усіх пластоў трамадзянства, аднак я не спаткаў ніводнага, каторы-б — бяз сумніву, пры добрай волі — лічыў паўстрыманасьць і апанаваньне самога сябе за немагчымае... Для маладога чалавека карыснейшым ёсьць жыць у чыстасьці».

Калегія лекараў унівэрсытэту ў Хрысьціяніі (Ослё) заявіла наступнае: «Цьверджаньне, якое нядаўна выказана рознымі асобамі, а пасьля паўторанае рознымі часопісамі і згуртаваньнямі, быццам маральне жыцьцё і плоцьная паўстрыманасьць прыносяць шкоду для здароўя, паводля нашага аднагоднага дасьведчаньня ёсьць зусім фальшывае. Мы ня ведаем аб ніякай хваробе, аб ніякай слабасьці, якія-б выклікаліся зусім чыстым і маральным жыцьцём».

Дарэчы заўважвае ведамы расейскі пісьменьнік і філязоф граф Леў Толстой: «На тое, што паўстрыманасьць ёсьць магчымай і для здароўя бяз сумніву менш небясьпечнай, чым распуства, кожны знойдзе сотні доказаў навокал сябе».

Падсумаваўшы вышэй сказанае, ясна бачым, што сучасная мэдыцына ня ведае ніводнае хваробы ад паўстрыманага жыцьця, але затое мае вялікі клопат з гідкімі і жудаснымі вэнэрычнымі хваробамі, выкліканымі распусным жыцьцём.

Адносна ўсіх вышэй прыведзеных сьведчаньняў, трэба заўважыць, што яны былі выказаныя з чыста лекарскага гледзішча; іх выказалі лекары нават некатолікі. Дзеля таго ў іх не бярэцца пад увагу яшчэ адна сіла, вельмі важная ў захаваньні чысьціні, якою ёсьць ласка.

Сьведчаньні лекарскіх павагаў наводзяць нас на тую думку, што цьверджаньні аб шкоднасьці чыстага жыцьця сягае сваімі карэньнямі сапсаванага людзкога імкненьня, якое стараецца абараніць свой немаральны спосаб жыцьця наперакор усім фактам.

Для хрысьціян бяз вялікіх круцігаловак ёсьць ясным, што Бог ня можа вымагаць ад чалавека рэчаў немагчымых, або шкодных здароўю. Кожны чалавек добрае волі можа захаваць чыстасьць, калі толькі будзе сьцерагчы сябе і будзе карыстацца памоцнымі сродкамі, якія яму дае і паручае сьв. Царква.

## РАЗЬДЗЕЛ 3.

## БЛУДНЫЯ ШЛЯХІ.

З Божага допусту плоцьныя гоны даюць знаць аб сабе ў гадох, у якіх моладзь не павінна яшчэ думаць аб сужэнстве, да чаго аднак гоны накіроўваюцца. Гэта час, калі юнак павінен навучыцца трымаць іх так, каб пасьля магчы зусім апанаваць іх. Пачаткавы ўзрух гэтых гонаў даволі слабы і ня цяжка яму супраціўставіцца. Паступова аднак яны набіраюць сілы і могуць спрычыніць шмат прыкрасьцяў.

Шмат залежыць ад таго, каб дасьпяваючы юнак ад пачатку заняў належнае становішча адносна праяваў плоцьных гонаў, як яны толькі пачынаюць будзіцца. Перш-на-перш ён павінен ясна зразумець, што тыя знакі дасьпяваньня ў мужчын ёсьць зусім натуральнымі, дзеля таго ня трэба імі непакоіцца. Самі ў сабе плоцьныя гоны ня ёсьць чымсьці дрэнным. Сам Бог даў іх чалавеку. Для нас аднак і для кожнае шляхотнае душы ёсьць упакараючым факт, што нізкі бок гэтых гонаў — змысловы і матэрыяльны — часта каб асягнуць задаваленьне сваіх жаданьняў, адзываецца так нахабна і так імкліва, што заглушае ўсе вышэйшыя меркаваньні. Малады чалавек мусіць усьцяж мець перад вачыма значэньне і мэту гэтых гонаў, а ведаючы, што ня можа паддавацца ім датуль, пакуль ня можа ўступіць у вызначаную Богам сувязь для вызначанае Ім мэты, павінен усімі сіламі старацца, каб завалодаць імі. Не сьляпыя гоны, але розум асьвечаны верай, павінен быць яму пуцяводнай зоркай. Тады і толькі тады ён будзе запраўдным чалавекам. Зялезнай рукой павінен дух трымаць на прывязі плоцьныя гоны і гэтым падпарадкаваць іх і захаваць здаровымі і непашкоджанымі, каб некалі дапамагалі яму да выконваньня паважных пляну, а не падрывалі і руйнавалі іх.

Моладзь любіць паказваць, што ўмее і што можа. Як-жа ім усьміхаецца перамога ў спаборніцтвах, напр.: у спорце! Тэлеграфічныя драты і штодзёньнікі разьнясуць вестку па цэлым сьвеце, колькі «пунктаў» здабыў той ці іншы, што асягнуў перамогу. Аднак-жа тая перамога, якую-ж яна мае вартасьць для запраўднага дабра чалавека, для ягонага збаўленьня?

Тымчасам у змаганьні за чыстасьць выврашаецца ягонае праўдзівае дачаснае і вечнае шчасьце. Дык ці-ж гэтае змаганьне ня можа падбадзёрыць амбіцыі юнака надзеяй перамогі і майстэрства ў тых спаборніцтвах? Праўда за гэткім змаганьнем ня сочыць і ня пляскае ў далоні шматтысячная таўпа ратазеяў, але затое ўсё неба ёсьць яе сьведкам і рыхтуе лаўры перамогі. Праўда аб здабытых пунктах у гэткім змаганьні маўчаць спартовыя справаздаўцы, але ў кнізе жыцьця яны запісаны залатымі літарамі на вечную хвалу.

З поўным супакоем прыглянымася цяпер да некаторых блудных шляхоў, на якія плоцьныя гоны стараюцца сіламоц сапхнуць маладога чалавека. Калі тут апісваюцца натуральныя наступствы, якія йдуць усьлед за нячыстым грахом, дык трэба заўважыць, што гэта само па сабе яшчэ ня ёсьць дастатковым, каб супрацьставіцца атакам юрлівасьці. Трэба яшчэ жывое веры, якая выплывае з прызнаньня Божае забароны, і ласкі, якая нам дае сілы захаваць чыстасьць. У далейшым разважаньні гэта выясьнім больш грунтоўна.

Перадусім трэба мець пэўнасьць, што нешта ёсьць запраўды забаронена Богам. Недасьведчаная, мала думаючая і наіўная маладосьць ёсьць аж занадта скорай, каб небясьпекі ня браць паважна. У шматлікіх рэчах запраўды грозных ня бачыць нічога злога. Дзеля таго ёй неабходна адчыніць вочы і паказаць вынікі, якія можа спрычыніць лёгкадумства і бяздумства. Трэба каб ты пазнаў, што крыецца пад такімі сказамі, як: «жыцьцё мае свае правы», «маладосьць павінна вышумецца», «ужывай сьвету, пакуль служаць леты», або, як вялікае няшчасце можа спрычыніць адна гадзіна слабасьці, ці «грэх маладосьці».

Трэба быць перакананым, што калі табе нешта забараняецца, дык ня дзеля вузкалобасьці, але дзеля твайго істотнага дабра. Кожная забарона ў гэтых дачыненьнях павінна здабыць тваю волю і перакананьне ды выяўляцца ня ў сказе: «гэтага мне ня можна», але: «я гэтага не хачу!»

Нашы доказы тады толькі будуць мець нейкі ўплыў на цябе, калі маеш **добрую волю** жыць паводля Божага права. Пазнаньне страшэнных вынікаў, да якіх даводзіць грэх нячыстасьці, павінна зрабіць цябе асьцярожным, каб ты, браце, ня ступаў лёгкадумна на тыя шляхі, на якіх толькі дзеля недасьведчанасьці ня бачыш небясьпекі. Трэба шмат асьцярожнасьці, каб не зрабіць фальшывага кроку, бо грэх умее прыміляцца ў найбольш прывабліваючай постаці, адзяючы зводную вопратку шчасьця і любові. Табе трэба выявіць страхоцьце, якое часта крыецца пад гэтымі манлівымі словамі, якую подласьць і агіду таіць у сабе грэшны нахіл, каб з надходзячай небясьпекай, ты мог заўсёды ўжо здалёк распазнаць яго злачыннае пятно. У барацьбе з так варожай і ня менш хітрай магутнасьцю ніколі ня можа быць зашмат асьцярожнасьці, зашмат сродкаў, каб мець пэўнасьць перамогі.

Ніжэй мы зьвернем асаблівую ўвагу на чатыры пуцявіны, якія зводзяць на бездарожжа тых, што йдуць на ўступкі плоцьным гонам. Гэтыя пуцявіны ня ёсьць адзінымі блуднымі і грэшнымі, але навакол іх найлепш падсумаваць тыя патрэбныя рады і перасьцярогі, якія могуць не аднаго маладога чалавека паўстрымаць ад фальшывага кроку.

У першую чаргу мы зоймемся прыхаваным грахом самагвалту. Наступна пяройдзем да «юнацкага каханьня», г. зн. да нясьпелае прыязьні хлапца з дзяўчынаю, ў якой магчымасьць сужэнства нават не ўвайходзіць у лік. Звычайна такая прыязьнь называецца фліртам. На трэцім мейсцы прыглянемся нелегальнай сувязі, а разумеем пад гэтым проста немаральнае сужыцьцё, найчасьцей пазбаўленае і мэты і магчымасьцяў праўдзівага сужэнства. Уканцы скажам крыху аб «выгадных адносінах», што мы разумеем, як часовае збачэньне, да чаго даюць нагоды гулі і вуліца.

(Далей будзе).

Паводля кніжкі Шільгэна «Du u ndSie»
апрацаваў **Васіль Друя**.

# Сьв. Еўфрасіня ў манастыры

## Першыя крокі.

Нялёгкае жыцьцё чакала Еўфрасіню ў манастыры. Відаць, што ігуменя Раманава зьменьваючы ёй імя, мела на ўвеце гэтыя цяжкасьці, калі выбрала ёй у патронку сьв. Еўфрасіню Александрыйскую, дочку Пафнуція, якая так-жа ўцякла ад замуства і пераапрануўшыся за мужчыну, уступіла ў мужчынскі манастыр, дзе і жыла непазнанаю аж да сьмерці 25-IX-401 г.

Так і для нашае Еўфрасіні ня вонкавыя цяжкасьці, але нутранае самаапанаваньне мусіла стацца штодзённым шляхам поступу ў дасканаласьці і цнотах ад першых дзён яе манастырскага жыцьця і аж да апошняга.

Трэба думаць, што ўцёкі Прадславы бацькі мусілі заўважыць адразу і адразу пачалі яе шукаць. Напэўна шукалі нядоўга, бо магчыма нават сама ігуменя паведаміла князя, што ягоная любая дачка цяпер у манастыры пад яе апекаю. Можна сабе лёгка ўявіць, як сумеліся бацька і маці, даведаўшыся, куды зьнікла іх любая Прадслава, з асобаю, якое яны зьвязвалі толькі прыгожых, на іх думку, праектаў. Ня дзіва дзеля гэтага, што ў іх сэрцах зьявіўся немалы жаль. І з гэтым жалем яны неадкладна сьпяшаюцца ў манастыр, а там гэты жаль мусіў яшчэ пабольшыцца, калі замест свае Прадславы пабачылі ўжо чарніцу Еўфрасіню. Жыцьцяпіс апавядае, што бацька з жалю рваў валасы на галаве, а маці галасіла наўзрыд, як па пакойніцы. Гэта была першая цяжкая проба для Еўфрасіні на новым жыцьцёвым шляху. Яна з гэройскім супакоем суняла горкія сьлёзы маці і супакоіла бацьку. Яна просіць бацькоў ня сумаваць, а радавацца таму, што іхняя дачка аддалася нябеснаму Валадару. Не прамінаючае дачаснае і вузкаасабістае шчасьце спадзяецца асягнуць Еўфрасіня, але вечнае і на гэтым шляху быць памоцнай для шматлікіх. Колькі мусіла быць жару любові і пераконваючае сілы ў словах юнае Еўфрасіні, можна бачыць з таго, што князі спакойна пагадзіліся з Божаю воляю, падобна, як раней ігуменя, і вярнуліся дамоў, а Еўфрасіня асталася ў манастыры дакладна захоўваючы ўсе правілы і ўпраўляючыся ў посьце і малітвах.

Аднак ціхае кантэмплятыўнае жыцьцё старых чарніцаў не магло на доўга здаволіць дзейны характар Еўфрасіні. У меру яе ўзрастаньня збольшвалася яе воля да шырэйшае дзейнасьці. У хвілінах вольных ад абавязуючых практыкаў, яна пачынае перапісваць кнігі. Гэтую думку мусілі ёй падказаць самыя абставіны. Манастыр, у якім яна знаходзілася, быў заложаны нядаўна і напэўна патрабаваў нямала кнігаў для хатняга ўжытку. Каб здаволіць гэтую патрэбу, Еўфрасіня ўзялася за працу перапісчыцы. Для перапісваньня яна мусіла браць кнігі з адзінае бібліятэкі ў Полацку, якая знаходзілася пры царкве сьв. Сафіі.

Магчыма што якраз гэтыя абставіны далі Еўфрасіні новую думку: перасяліцца ў самую царкву сьв. Сафіі, каб быць бліжэй бібліятэкі. З гэтаю просьбаю яна зьвярнулася да тагачаснага полацкага япіскапа Ільлі. Той дазволіў ёй, памятаючы, што калісьці пры Ерузалімскай сьвятыні так-жа пражывалі пабожныя дзевы, між якімі была Найсьвяцейшая Дзева Марыя.

## У Сафійскіх мурох.

Сьв. Сафія Полацкая была найстарэйшаю і найбагацейшаю мураванаю царквою на Беларусі, пабудаванаю дзедам Еўфрасіні Усяславам II Чарадзеям. Некаторыя гісторыкі дадумоўваюцца, што якраз адным з ягоных «чарадзеяньняў» была пабудова ў Полацку нябачанае дагэтуль аграмаднае і прыгожае мураванае царквы. Нажаль ад першапачатнае будовы да нашых часоў захаваліся толькі фундамэнты і частка муру, рэшта няраз была перабудоўвана і руйнавана. Апошні раз яна была адноўлена ў XVIII ст. Сьвятасафійскія сьцены былі аздоблены фрэскамі ў стылі тых аздобаў, якія бачым на Тураўскім Эвангельлі (XI в.), як гэта відаць з рэшткаў захаванае сьцяны. Самая царква знаходзілася на верхнім замку, ці як яго тады называлі Крамлю. Каля яе гуртавалася рэлігійнае і дзяржаўнае жыцьцё Полацкага княства. Пры ёй вісеў вечавы звон, а самае веча зьбіралася на аграмадным «дзядзінцы», які акружаў сьв. Сафію. Тут вырашаліся ўсе важныя дзяржаўныя справы, тут выбіраліся полацкія князі, а ў самай царкве яны прымалі прысягу, апясваліся старасьвецкім мячом і атрымоўвалі князёўскія азнакі. Царква і ўвесь замак былі абнесены моцнымі мурамі.

Якія багацьці знаходзіліся ў сьв. Сафіі, можна дагадацца з таго факту, што маскоўскі цар Іван Грозны заняўшы на нейкі час Полацк у 1563 г. вывез у Маскву толькі з самае гэтае царквы 300 вазоў серебра, золота і розных каштоўнасьцяў.

У мурох сьв. Сафіі мусілі быць невялікія келіі; вось у адну з такіх келіяў, якую жыцьцяпіс называе «галубцом» і перасялілася Еўфрасіня. Некаторыя гісторыкі дагадваюцца, што гэты «галубец» мусіў быць у ніжнім паверсе царквы, іншыя наадварот. Тут Еўфрасіня з поўным самазапярэчаньнем аддалася духовым практыкам. Сваё выснажанае постам цела узмацняла малітваю, а найбольш часу аддавала на перапісваньне кнігаў, вышываньне аблачэньняў і ўсё гэта пасылала бяднейшым беларускім манастыром і цэрквам. Калі сама не адольвала ўсіх запатрабава-

ньняў, наймала перапішчыкаў. Гэткім чынам сьв. Сафія ў Полацку стаецца паважным асьветным цэнтрам на Беларусі. Некаторыя кнігі Еўфрасіня прадавала, але атрыманыя грошы так-жа раздавала патрабуючым і ўбогім.



Як перадае традыцыя, пры сьв. Сафіі перахоўваўся летапіс Полацкага княства, які мела перапісаць Еўфрасіня.

Ня толькі перапішчыкі гуртаваліся каля Еўфрасіні, але так-жа і ахвотнікі, ды ахвотніцы навучыцца граматы, дзеля гэтага дзякуючы яе прысутнсьці сьв. Сафія сталася яшчэ больш люднаю і рухаваю, чым была дагэтуль, муры напоўніліся гоманам. Гэткі томан ня зусім быў па душы тагачаснаму япіскапу. Магчыма, што і для самое Еўфрасіні ня зусім адказвала такое гамарнае асяродзьдзе, бо мала пакідала ёй часу аставацца ў келіі, таму яна задумала аснаваць новы монстыр. Да гэтага далучаецца выразны Божы знак сьв. Еўфрасіні, што яна мусіць зьмяніць мейсца пражыцьця. Аднойчы ўначы ёй прысьніўся сон, быццам анёл Божы ўзяў яе за руку, прывёў яе да мяйсцовасьці званае Сяльцо, дзе была япіскапская метахія (дварэц) з невялікаю дзеравяннаю царквою сьв. Спаса і сказаў: «Тут табе трэба пражываць, бо хоча Бог на гэтым мейсцы праз цябе спасьці шматлікіх». Гэты сон паўтарыўся тройчы і таму Еўфрасіня паважна задумалася над ім і цешылася, што хоць у сьне бачыла анёла. За гэта яна славіла Бога і пастанавіла прыняць Ягоную волю, кажучы: «Гатова сэрца маё, гатова... як хочаш, Божа, так рабі са мною, Тваею рабою».

Тае самае ночы япіскап меў зусім падобны сон і раніцаю прышоў да Еўфрасіні, каб паведаміць яе аб сваёй пастанове, перасяліць яе ў Сяльцо. Спачатку япіскап зусім не ўспамінаў Еўфрасіні аб сваім сьне. Ён казаў ёй: «Ведаеш, дочка, што царква, ў якой пражываеш, ёсьць саборная, тут усякія людзі зьбіраюцца і табе нядобра тут быць. Затое ёсьць царква сьв. Спаса ў Сяльцы, дзе пахаваны мае папярэднікі, полацкія япіскапы, ці не ўспаможа цябе Бог дзеля іх малітваў і твае працы, каб на тым мейсцы разбудавалася вялікае вогнішча для спасеньня шматлікіх душ?» У гэтых словах Еўфрасіня яшчэ раз пабачыла выяў Божае волі і з пакораю прыняла яе.

### Манастыр сьв. Спаса.

Пераход Еўфрасіні ў Сяльцо, азначаў заснаваньне новага манастыра і прызначаньне япіскапскае зямлі гэтаму манастыру, дзеля гэтага япіскап паклікаў князёў Барыса — дзядзьку Еўфрасіні і Юрыя — бацьку яе, як таксама вызначных баяраў і ўрадаўцаў, паведамляючы іх аб сваім намераньні, заснаваць жаночы манастыр у Сяльцы пад кіраўніцтвам Еўфрасіні і перадаць гэтаму манастыру на ўласнасьць усе тое, што ў Сяльцы належала япіскапскаму пасаду. Знаходзілася яно ўсяго паўтара кілямэтра ад Полацку на правым беразе Палоты. Князі і баяры адобрылі прапанову япіскапа і з свайго боку зьвярнуліся да Еўфрасіні з радаю прыняць яе. З гэтага можна дагадвацца, што Еўфрасіня ня вельмі ахвотна раставалася з сьв. Сафіяю, хоць у жыцьцяпісе неаднойчы падчыркваецца, што яна з радасьцю прымала словы япіскапа. Акрамя самага прызнаньня новазаснаванага манастыра і наданьня яму ўласнасьці, магчыма, што япіскап спадзяваўся ад князёў атрымаць помач для яго. Гэтая нарада памагае азначыць дату заснаваньня манастыра, не пазьней 1128 г., калі ўжо князя Барыса ня было між жывымі.

На дарогу Еўфрасіня атрымала толькі япіскапскае багаславенства і ноччу, каб не зьвяртаць на сябе ўвагі, і адначасна гэтым нясьведама выяўляючы свой жаль, пайшла ў назначанае мейсца ў таварыстве толькі аднае чарніцы, маючы з сабою толькі некалькі кнігаў для малітвы, тры баханцы хлеба і падарожны кій.

Шчыра з сьлязамі малілася Еўфрасіня на новым мейсцы аб багаславенстве і падтрыманьні. Малітва яе была хутка выслухана. У новы манастыр пачалі зьбірацца ахвотніцы пасьвяціць усё сваё жыцьцё на службу Богу. У бязьмежна ахвярным жыцьці Еўфрасіні было нешта нявымоўна чароўнае і прываблівеючае, якое з усіх куткоў краю і з усіх пластоў грамадзянства сьцягвала

штораз новых людзей у духовую сям'ю сьвятое жанчыны. У новазаснаваным манастыры Еўфрасіня была і ігуменяю, і настаўніцаю, але перадусім была жывым прыкладам.

Аднойчы Еўфрасіня папрасіла сваіх бацькоў, прысласць ёй на навуку яе малодшую сястру Градзіславу (або Гардзіславу). Бацькі пусьцілі і яна навучылася ад Еўфрасіні ня толькі граматы, але і любові да духовага жыцьця, да захаваньня дзявоцтва, да службы Богу і народу ў манастырскіх сьценах. Калі ўмела калісь Еўфрасіня прамовіць да ігумені, да бацькоў, дык цяпер змагла хутка знайсьці дарогу да сэрца роднае сястры і тая хутка згадзілася астацца ў манастыры назаўсёды. Нічога ня кажучы бацьком, пастрыглася ў чарніцы і Градзіслава, прыняўшы імя Еўдакія.

Бацькі хутка засумавалі за малодшаю дачкою і наказалі адасласць яе дамоў, але Еўфрасіня нічога ня кажучы аб тым, што сталася, папрасіла бацькоў, каб яшчэ аставілі сястру ў манастыры, бо яшчэ ня зусім добра навучылася пісаць. Аднак бацькі, ведаючы характар свае старэйшае дачкі, мусілі дагадацца, што азначала гэтая просьба. Прытым хутка дайшла да іх пэўная вестка, што Градзіслава пайшла сьледам Прадславы. Тады бацькі з вялікім сумам і бадайшто з яшчэ большым гневам зьявіліся ў манастыр да Еўфрасіні і з горкім дакорам казалі ёй: «О, дочка, што ты зрабіла нам? прылажыла жаль да жалю і сум да суму; ці ня досыць было табе самой пакінуць нас? а тут і другое наша любае дзіця лісьліва выхапіла ад нас! Ці-ж на гэта мы вас радзілі, ці-ж на гэта узгадавалі, каб ужо перад сьмерцю; як пакойніцы ў дамавінах у гэтых чорных вопратках і манастырскім запярці замкнуліся, і пазбавілі нас тае пацехі, якое мы спадзяваліся ад вас? Замест радасьці вось гэтыя горкія сьлёзы праліваем!»

Еўфрасіня і на гэты раз знайшла словы, уцішыць бацькаўскі гнеў і сум. З слоў бацькі відаць, які вялікі быў бацькаўскі боль, але шмат большы быў жар любові да Бога сьв. Еўфрасіні. З яе спакойнага адказу бацькі пабачылі, што пад чарнечымі вопраткамі крыецца шмат большая велiч, як гэтага яны спадзяваліся і таму вярнуліся дамоў супакоеныя, а нават суцешаныя.

Яшчэ ня ўсьпела штодзеннае жыцьцё засыпаць сваім пылам здарэньня з Градзіславаю, як дачка князя Барыся Зьвеніслава, сабраўшы ўсе свае каштоўнасьці і дарагія вопраткі падрыхтаваныя да шлюбу, прышла да Еўфрасіні, кажучы: «Усе гэтыя каштоўнасьці даю ў царкву сьв. Спаса і сама хачу Яму адзінаму служыць і ўспрыняць Ягонае ярмо і несьці Ягоны цяжар».

З радасьцю Еўфрасіня выканала яе просьбу і загадала пастрыгчы яе. У пастрыжэньні Зьвеніслава атрымала імя Еўпраксія.

**Будова мураванае царквы сьв. Спаса.**

Падчас таго, як манастыр запаўняўся новымі чарніцамі, адначасна расьлі вымогі нават да вонкавага выгляду самога манастыра і асабліва царквы. Дзеравянная царква сьв. Спаса сталася замалою і нездавальняючай, таму Еўфрасіня пастанавіла выбудаваць на яе мейсцы новую мураваную царкву.

Калі нават сёньня ў век так разьвітай тэхнікі пабудова вымагае нямала клопатаў, дык можна сабе ўявіць, як у тых старых часох, калі мулярства ў нас толькі пачынала свой разьвой, колькі гэта каштавала працы і стараньняў Еўфрасіні, каб ажыцьцявіць свае пляны: найці матэрыял, дойліда, муляроў і пад. Усе гэтыя перашкоды яна хутка перамагла і царкву выбудавалі роўна за 30 тыдняў. Пры гэтай нагодзе даведваемся імя найстарэйшага ведамага пайменна беларускага дойліда Івана з Полацку. І самая царква да нядаўна была найстарэйшаю памяткаю беларускага будаўніцтва, але ваенныя падзеі 1942 г. зьнішчылі яе, як гэта відаць з актаў Нюрымбэрскага суду, дзе бальшавікі за гэты злачын абвіняюць немцаў.

Хуткая пабудова царквы сьв. Спаса мела асаблівую помач Божую. У жыцьцяпісе апавядаецца, што дойлід Іван часта над раньнем чуў голас: «Іване, уставай ды йдзі на працу Спасавай царквы!» Ня ведаючы адкуль гэты голас паходзіць, ён думаў, што гэта Еўфрасіня будзіць яго раньнім ранам і таму аднойчы прышоў да яе з жалем, чаму яна прысылае кагосьці панукаць яго так рана да працы. Еўфрасіня зразумела, што гэта для яе асаблівая помач Божая, таму спакойна адказала: «Хоць гэта і ня я пасылаю цябе будзіць і панукаць да працы, але паслухай таго голасу і рабі тое, што табе кажа, бо тое, што робіш ёсьць дзелам Божым».

Калі ўжо будова была на заканчэньні нястала цэглы для завяршэньня. Няма ведама, што магло выклікаць гэтую нястачу, бо цэглу выраблялі і выпальвалі ў цагельні на мэйсцы недалёка ад самае будовы. Тады Еўфрасіня зьвярнулася да Бога з гарачаю малітваю аб помачы: «Божа, ты даў нам больш, дай яшчэ і менш для завяршэньня Твае царквы». Назаўтра знайшлася поўная печ выпаленых цэглаў, якімі змаглі закончыць будову.

Запраўды на будову Спасавае царквы мусіла пайсьці вельмі шмат цэглы, бо яе сьцены, асабліва ўнутраныя слупы, сягаюць амаль двухмэтровай таўшчыні.

Пры гэтай нагодзе варта заўважыць, што паводля аднадушнага сьведчаньня ўсіх вучоных, якія раней мелі нагоду аглядаць гэтую царкву, яна зьяўлялася ня толькі найстарэйшым помнікам беларускага будаўніцтва, але найлепшым выявам яго самабытнасьці. Праўда гэтая будова насіла яшчэ на сабе адбітак суровасьці і часткава неагладжанасьці, але яна сталася першаўзорам для далейшага будаўніцтва на нашай бацькаўшчыне і ў суседніх краёх. Тут ня было таго патураньня іншым чужым стылям, як гэта мела мейсца ў яе

папярэдніцы сьв. Сафіі, яна ёсьць арыгінальным чыста мяйсцовым творам і калі мела адбітку ранейшых будынкаў, дык хіба старых замкаў і абаронных муроў. У ёй яшчэ маса прыціскае прастор. Малюсенькія вокны знаходзіліся высока пад скляпеньнем. Бакавыя навы мала шыршыя, як сходы, ў заходняй сьцяне, якія вялі на хоры, дзе знайходзіліся дзьве келіі, у адной з якіх жыла сьвятая. Гэтыя келіі да апошняга часу былі захаваліся ў сваім даўнейшым выглядзе, але вонкавасьць царквы ў пазьнейшых перабудовах атрымала візантыйскі стыль. Апошні раз перабудовалася яна ў 1841 г.





Сьцены царквы былі пакрыты шматлікімі малюнкамі-фрэскамі з стараветнымі напісамі.

З даўных давён гэтая царква ў народзе мела назоў Спаса-Юр'евіча, гэта сьведчыць аб тым, што бацька Еўфрасіні, князь Юрый, так-жа мусіў прычыніцца да яе пабудовы сваімі дарункамі.

Можна сабе лёгка ўявіць, якая была радасьць у манастыры, калі закончылі будову гэтае сьвятыні. Пасьвяціў царкву сам япіскап у саслужэньні ўсяго полацкага кліру і ў прысутнасьці абох князёў, значыць яшчэ перад 1128 г. Разам з Еўфрасіняю радаваліся і ўсе палачане, ды сьвяткавалі гэтую падзею некалькі дзён.

Для выяўленьня свае шчырае падзякі Богу, Еўфрасіня ўлажыла адпаведную малітву: «Ты, Госпадзе, сэрцавідча Уседзяржыцялю, зглянься на гэтую царкву, збудаваную ў імя Тваё і на мяне нягоднную слугу Тваю і іншыя слугі Твае, сабраныя пры гэтай царкве... і працуючым Табе, будзь нам настаўнікам, пастырам і сторажам, каб ніводнае з нас не схапіў на згубу драпежны ваўкянічысьцік. Будзь нам, Госпадзе, аружжам і сьцяною, каб ня сталася нам ліха і рана, каб ня прыблізілася да нашага цела і не загубі нас з нашымі бяспраўствамі. На Цябе спадзяёмся, бо Ты Бог добрасардэчны і літасьцівы для тых, што знаюць Цябе і Табе славу засылаем да апошняга нашага дыханьня».

Да сясьцёр Еўфрасіня зьвярнулася з вельмі вымоўным павучэньнем. Можна дагадвацца, што яно не зьяўляецца выдумкаю жыцьцяпісца, але прынамся нейкім блізкім пераказам запраўднага Еўфрасінінскага слова. Яно сьведчыць ня толькі аб дасканалым знаньні сьв. Пісаньня, але і вялікіх вымогах да чарнечага жыцьця, якімі азначалася Еўфрасіня. Аднак форма і стыль гэтага павучэньня мае пазьнейшыя азнакі.

«Вось сабрала я вас, як квахтуха куранят пад крыльлі свае і быццам Божых авец на Божую пашу пасьвіцца ў Божых прыказаньнях, каб і я з радасьцю, а ня з сумам дбала аб вашым спасеньні і навучала вас, цешучыся, бачучы духоўны плод вашае працы. Ужо толькі слоў Божае навукі я сеяла на ніве вашых сэрцаў, а нівы гэтыя на адной меры стаяць, не растуць у дабротах і дасканаласьці. А час жніва набліжаецца і веялка гатовая ў гумне, якая адвее куколь ад пшаніцы, баюся, каб вы ня сталіся куколем і каб ня былі адданы неўгасаючаму агню. Малю вас, сёстры мае, пастарайцеся ўсьцерагчыся ад грахоўнага куколю і ўцячы ад неўгасаючага агню; станьцеся чыстаю пшаніцаю Хрыстоваю і зьмялецеся ў жорнах малітвы, пакоры і посту, і чыстае любові, каб быць любым хлебам на банкет Хрысту».

Хутка пасьля заканчэньня царквы сьв. Спаса Еўфрасіня пастаралася выбудаваць другую мураваную царкву ў імя Прасьвятое Багародзіцы, каля якое заснаваўся мужчынскі манастыр. Да нашых часоў ад гэнага манастыра не асталося нават сьледу, аднак згодна з даўнейшай практыкай звычайна ў тых выпадках, дзе манастыры былі па-за горадам будаваліся мужчынскія і жаночыя ў суседзтве, каб на выпадак нападаў, манахі маглі абараняць абодва манастыры. Магчыма, што якраз дзеля гэтага царква Багародзіцы і мужчынскі манастыр, які быў каля яе, зруйнаваныя дазваньня. Гісторык Сапуноў дагадваецца, што царква сьв. Багародзіцы мусіла быць на тым мейсцы, дзе пазьней знайходзіўся касьцёл сьв. Ксавэрага на магільніку.

Абедзьве царквы акрамя шматлікіх фрэскаў на сьценах былі аздоблены шматлікімі абразамі.

**а. Л. Гарошка.**

# СТРАХ

З сумам трэба прызнаць, што адною з сілаў, якія валодаюць сучасным сьветам, ёсьць страх.

Хаця з найдаўнейшых часоў страх быў заўсёдным спадарожнікам чалавека, але бадайшто не памылімся, калі скажам, што ніколі ў такой ступені страх не панаваў над людзьмі, як цяпер.

З даўных давён чалавек меў страх перад магутнымі прыроднымі стыхіямі, калі яны праяўлялі сваю руйнацкую дзейнасьць; меў страх перад пераважаючаю сілаю ці істотаю — у гэтым няма дзіва, няма так-жа дзіва, калі баязьліваму страх здаецца нават без паважнае прычыны, але сёньня мы ёсьць сьведкамі, што страх апаноўвае наймагутнейшых людзей сьвету і цэлыя магутныя дзяржавы — яны знаходзяцца ў абыймах страху нароўні з найслабейшымі, калі ня больш.

Заўсёды розныя высокапастаўленыя асобы мелі ахарону і варту, але гэтага нельга прыраўняць з тым, што назіралася і назіраецца ў таталітарных верхаводаў. Калісьці, як назістоўскія дзеячы праязджалі праз акупаваныя імі абшары і грады, дык абстаўляліся такою аховаю, што даслоўна не дазвалялі на вуліцах гарадоў паказвацца жывой душы ў часе іх пераезду. Тое самое, толькі ў іншым характары, робяць і сучасныя крамлёўскія дзеячы.

Як-бы толькі самыя гэныя верхаводы мелі страх, ад гэтага была-б невялікая бяда, але на няшчасьце яны й іншым не даюць супакою, яны й на іншых сьведама і нясьведама стараюцца накінуць страх, і ў выніку сучасны сьвет ня мае супакою. Усе баяцца ўсіх, недавяраюць усім, — вось дзеля чаго гэтае зьявішча змушае задумацца над ягонымі прычынамі.

Бяз вялікіх цяжкасьцяў можна заўважыць, што страх найбольш пануе там, дзе найменш валадарыць Бог, і адтуль, быццам хвалі на вадзе ад кіненага каменя, ён расходзіцца навокал зарысоўваючы штораз шырэйшыя і слабеючыя кругі. Але чым бліжэй да таго бязбожнага цэнтру, тым страх большы.

Ад вякоў ужо народ заўважыў, што страх маральнага характару ёсьць найгоршы і мае ў сабе нешта дэманічнае, бо ў супрацьстаўленьні да «сьвятога супакою» паказваўся «пякельны страх», як найбольш жахлівы страх.

Трэба заўважыць, што ня ўсякі страх можна расцэньваць аднолькава. Страх перад прыроднымі стыхіямі, перад фізычнаю сілаю, як хутка зьяўляецца, так хутка і мінае з хвілінаю, калі перастаюць дзейнічаць гэтыя пагражаючыя сілы. Але страх, які затнязьдзіцца ў душы, у сумленьні чалавека, — ня зьнікае да таго часу, пакуль ня зьнікне самае сумленьне. Таму людзі з нячыстым сумленьнем, значыць розныя злачынцы і нягоднікі, ня могуць вызбыцца страху. Вельмі часта яны сваім непамерным страхам зраджваюць сваё нячыстае сумленьне.

Ад вякоў ведама, што «на злодзею шапка гарыць» і «хто парася ўкраў, у таго ў вушох пішчыць». Гэта не ёсьць выпадковым зьявішчам, — такая ўжо Божая воля: «Для нягодных няма супакою, кажа Госпад» (Ісаія XLVIII, 22). Таму і клікаў з сумам псальмапевец пасьля граху: «У абліччы грахоў маіх няма супакою косьцям маім» (Псал. XXXVIII, 4).

Страшэнная небясьпека пагражае кожнаму грамадзтву, калі ў ім на кіруючых становішчах знойдуцца людзі з нячыстым сумленьнем, бо «Панаваньне нягодных —руіна людзям» (Прып. XXVIII, 12). Ніякае становішча ня вызваляе чалавека ад голасу ягонага сумленьня і таму, чым вышэйпастаўлены мае страх, тым на большае асяродзьдзе ён узьдзейнічае затрывожваючым спосабам, тым у шыршым кругу сее западозраньне, бо: «У вушах нягоднага заўсёды гучыць страх, і нават падчас міру ён заўсёды падазрае подступ супраць сябе» (Ёў XV, 21).

Дрэнны знак сёньняшняга часу якраз у тым, што не зважаючы на нішто, шмат дзе стараюцца страх зрабіць цэмэнтуючаю сілаю грамадзтва, а нават аперці на ім дзяржаўны лад. Толькі тады для большае выгоды называюць яго палаціне тэрорам, але ад гэтага ён свае сутнасьці ня зьмяняе ні крошкі. Застрашаньне свайго супрацiўніка, свайго падуладнага, каб не асьмеліўся і пікнуць, — вось мадэрная сыстэма ўлады ў некаторых дзяржавах. Бесьпярэчна той, хто застрашвае іншых, ня можа мець даверу да тых, каго застрашвае. Адгэтуль — вынікам застрашваньня — ўзаемны недавер.

Тымчасам здавён ведама, што «ад баязьні няма прыязьні». А вязі створаныя страхам вельмі нятрыўкія і ў крытычных хвілінах разьлятаюцца ў пыл. Таму будаваць нешта на страху, гэта азначае: згары прызначаць на руіну. Уся бяда аднак для людзей у тым, што гэтая руіна часам прыходзіць ня так хутка, а ў міжчасе людзі мучацца і бядуюць.

Ад сыстэмы апёртае на страху нельга спадзявацца нічога добрага з тае простае прычыны, што страх ня можа радзіць нічога іншага, як страх. «Сава ня родзіць сакала, але такога, як сама».

Калі-б пацікавіцца тым, чаму страх прасьледуе людзей з нячыстым сумленьнем, дык адзіным выясьненьнем на гэта ёсьць адказ: такая Божая воля у сьвеце і зьмяніць яе ніхто ня ў сіле. За кожны злочын чалавек некалі будзе адказваць перад Богам, аб гэтай адказнасьці з Божае волі і наказу прыпамінае кожнаму чалавеку ягонае сумленьне і яно, тое нячыстае сумленьне, родзіць страх перад адказнасьцю, перад будучаю, няведамаю караю. Ад гэтага дакараючага голасу сумленьня ня выратуе чалавека ніякі самаабман, бо: «ня выбавіць нягоднасьць нягодніка» (Эклез. VIII, 8), «Чаго баіцца нягодны, станецца тое яму і справядліваму станецца паводля жаданьня» (Прып. XI, 31). І народная мудрасьць аб гэтым кажа: «Найгорш, калі баішся; і страху ня мінеш, і надрыжышся».

Людзтва змучанае шматлікімі пакутамі і досьледамі на ўласнай скуры, нарэшце павінна зразумець, што толькі пекла пабудавана на страху і

цярпеньні, а для пабудовы грамадзтва на зямлі Хрыстос прынёс іншую сілу: неперамножную і боскую Любоў. «Толькі ў любові няма страху» І. Іван. IV, 8) і на любові можна збудаваць нешта запраўды трыўкае і годнае чалавека прызначанага да вечнага жыцьця ня ў пекле, але ў небе, ў абліччы бесканечна любячага нас Бога.

**Сьвятар Л.**

# Міхасёк

— Мама, а чаму гэта?.. вось тое вечнае пытаньне, якім Міхасёк не даваў ніколі супакою сваёй маці.

— Ну й удаўся-ж хлапец! гаварыла яна бывала, калі ўжо ня ведала, што адказваць.

А сёньня для Міхасіка асаблівы дзень. Яшчэ ўчора маці сказала, што пойдуць у царкву у суседняе мястэчка, якое было за лесам, якіх добрых тры кілямэтры ад Глухавіч. Цікавасьць Міхасіка ўжо даўно сягала за межы свае вёскі Глухавічы і нават за межы веды ягонае маці. Ведама, малы пазнаваў сьвет, у якім меў жыць і ў якім ёсьць толькі цікавага, важнага, але толькі незразумелага. Ён ужо ведаў, што там за лесам сьвет не канчаецца, што там жывуць людзі, што там ёсьць большыя вёскі, як іхняя, ведаў, што там недзе ёсьць вялікая царква, з якое часам у нядзелю чуваць быў звон аж у Глухавічах; ён так-жа ведаў, што гэта туды ў мястэчка йдзе шырокі гасьцінец, абсаджаны старымі бярозамі. І вось сёньня ён меўся йсьці туды і глянуць сваімі вачыма на той далёкі сьвет. Чуць на зару, ён ужо ня спаў.

— Куды ты спароўся так рана? Гэта-ж яшчэ сонца ня ўзыйшло, казала маці.

— А во ўжо відно.

— Відно, ды ня зусім. Нябось потым, як трэба будзе каровы на ранкі гнаць, дык і віламі з ложка ня спораш.

Міхасёк схаваўся пад коўдру і нейкі час ляжаў моўчкі, але хутка спрыкрылася яму гэтае ляжаньне.

— Мама, а дзе новая сарочка, што вы казалі ўчора?

Цяжка ўздыхнула маці і, ня кажучы ні слова, палажыла яму на ложак вопратку і чыстую залапленую сарочку, а сама пайшла да печы. Міхасёк ужо мяркаваўся адзявацца, як маці яго перапыніла.

— Ідзі, перш памыйся!

Бяз слова супраціву Міхасёк даў сабе памыць ня толькі галаву, але і вушы. Калі ён адзяваўся, першыя праменьні ўсходзячага сонца заглянулі праз невялічкія шыбы ў хату.

— Мама, чаму тэта сонца такое чырвонае, як усходзіць? Мусіць яно нечага саромяецца.

— Чаго-ж яно будзе саромецца?

— Дык чаго-ж яно чырвонае?

— Злуецца на цябе, што такі непаслушны, спароўся чуць на сьвет і дакучаеш маме.

Міхасёк апусьціў галаву і сам зачырванеўся, потым адвярнуўся да покуці і пачаў уважна гаварыць пацеры.

Сьнедаў ён вельмі хутка і з нецярпеньнем чакаў, калі нарэшце выйдуць у дарогу. Маці несьпяшаючыся, наводзіла сьвяточны парадак у хаце і скончыўшы ўсё, як сьлед, яны выйшлі. Дзень быў прыгожы. Вясеньняе сонейка ясна зьзяла на небе. Усюды было зелена, чыста і радасна; толькі маці сумна пазірала на бедны Міхасёў халацік і маўчала. Над іх галовамі, высока ў небе, трапятаўся жаваранак і трыліў сваю вясеньнюю песьню. Міхасёк нейкі час, узьняўшы галаву, сачыў за ім і пытаўся:

— Мама, што гэта пяе жаваранак?

— А хто-ж яго ведае.

— А каму гэта ён пяе?

— Усім. Хто хоча, той і слухае.

— Мама, а праўда, што ён хораша пяе?

— Но-але хороша. Бачыш, вось якая маленькая птушка і ня вучыцца, а як хораша пяяць умее.

— От, мама, каб я быў жаваранкам!

— Што-ж бы ты рабіў?

— Я-б заўсёды сьпяваў, каб мама ніколі ня плакала!

— О, блазнота ты, ціха прашаптала яна.

На нейкі час гутарка прыціхла. Яны выйшлі на шырокі гасьцінец. Раптам каля іх прамчаўся аўтамабіль. Міхасёк засыпаў маці рознымі пытаньнямі, на якія яна не заўсёды магла знайсьці адказ. А дзе? а як? а хто? а з чаго робяць аўтамабілі? а як самі езьдзяць? Падобныя пытаньні сыпаліся быццам з рукава.

Яны набліжаліся да мястэчка і перад імі вынырнулі першыя будынкі.

— Мама, чаму гэта тут такія вялікія хаты, хіба тут людзі большыя?

— Ды-не, але тут людзей больш жыве ў кожнай хаце.

— А чаму гэта ў іх вокны над вокнамі, усёроўна, як хата на хаце стаіць?

— Бо такі праўды тут над хатаю ёсьць хата.

— А чаму гэта каля гэтых хатаў няма ні хлявоў, ні гумнаў?

— Бо яны на полі не працуюць, дык ня маюць ні кароў, ні збожжа.

— Дык як-жа яны жывуць?

— Зарабляюць грошы, ды купляюць усё, што трэба.

— А дзе яны зарабляюць грошы?

— Дзе папала, адказала коратка маці, каб аб гэтым шмат не гаварыць.

— А якія тут усюды вялікія вокны, дзівіўся Міхасёк, хіба тут сонца мала сьвеціць?

— Гэта каб было ў хаце сьвятлей.

— А сонца, мама, усюды аднолькава сьвеціць?

— Но-але! сказала няпэўна маці і сама задумалася, ці праўду яна сказала. Так, маці, так кажы свайму малому, што ўсюды аднолькава сьвеціць яснае сонейка: і на сьвятыні, і на вязьніцы, і на ўраджайную ніву, і на пустыню, і на дабрадзеяў, і на ліхадзеяў, і на крыштальную крыніцу, і на памыйную яму, і аднолькава граюць касулі сонца ў сьлёзах радасьці і гора, у кроплях расы і ў кроплях крывавага поту — толькі неаднолькава людзі карыстаюць з гэтага сьвету.

— Што гэта за дом, з гэтымі белымі вокнамі? далей пытаўся Міхась.

— Гэта шпіталь. Тут хворыя лечацца.

— Дык гэта тут так шмат хворых!!! дзівіўся малы.

— Бо сюды так-жа з вёсак прывозяць.

— А што гэта за такі дом, схаваны за гэткімі высокімі мурамі?

— Сьціхні ты. Гэта турма, казала маці прыцішаным голасам. Вонь бачыш, паліцыянт на варце ходзіць.

— Чаму яна гэткая вялікая?

Маці замест адказу мацней сьціснула ягоную руку, прыцягнула бліжэй да сябе і прысьпешыла крок, каб хутчэй мінуць грозныя муры, быццам баялася, каб не забралі яго ў гэтыя муры, а паліцыянт грозным позіркам суправаджаў іх.

Далей яны прайходзілі каля школы і калі Міхасёк пабачыў вялікі натаўп рухавае і крыклівае моладзі, так уважліва заглядзеўся на іх, што аж спыніўся.

— Што яны тут робяць, гэтак шмат?

— Тут школа.

— Але тут вучацца вялікія хлопцы! дзівіўся Міхасёк.

— Бо гэта большая школа.

— А ці з нашае вёскі тут хто вучыцца?

— Вучыўся раней Апанасаў Барыс, але потым ня мог заплаціць і пакінуў, толькі з Саракоў двох хлапцоў яшчэ ходзяць.

З жалем глядзеў Міхасёк на расьсьмяяны і рухавы гурт і нават не адважваўся спытацца маці, ці зможа ён калі быць тут.

Хутка яны ўвайшлі ў царкву. Народу было няшмат. Міхасёк спачатку разглядаўся вокал і страціўшы хацеў спытаць маці, што абазначаюць некаторыя рэчы, якіх ён да гэтага часу ніколі ня бачыў, але маці яму сказала маўчаць. Потым ён услухаўся ў сьпеў і хацеў абавязкава глянуць на тых, што так хараша пялі. Потым сьвятар пачаў нешта гаварыць і Міхасёк стараўся зразумець, што ён гаворыць, але ніяк ня мог і таму ня вытрымаў, каб спытацца:

— Мама, паякому гэта ён гаворыць?

— Пасвойму, шэпатам адказала маці.

— А чаму мы не пайшлі ў царкву, дзе гавораць панашаму?

Маці заціснула яму рот, а людзі навокал аглянуліся на Міхасіка. Цяжка было малому дастаяць да канца, пачалі балець ногі, а змучаная новымі ўражэньнямі ўвага сталася абыякаваю нават на сьпеў, які яму спачатку так падабаўся. Ён пачаў пытацца маці, ці зараз канец.

Вяртаючыся дамоў, Міхасёк ужо ня так засыпаў маці пытаньнямі, але затое ён пасумнеў, спавальнелі ягоныя жывыя вочы і аблічча быццам пастарэла.

Папалудні хваліўся Міхасёк сваім сябром, што бачыў у мястэчку шмат цікавых рэчаў, але не аб усім успамінаў, што там бачыў. Некаторыя з ягоных сяброў нават і гэтага ня бачылі і зайздросьцілі яму.

Змучаны сваімі новымі ўражэньнямі Міхасёк сёньня хутка пашоў у хату і ня бачыў, як заходзіла сонца. Ня было каму прыглянуцца да яго і заўважыць, што чым ніжэй набліжалася яно да зямлі, станавілася чырванейшым, няведама толькі, ці з сораму, ці злосьці.

Наваградак, 1935 г. **Анатоль Жменя.**

**Янка Золак.**

**ШТО Й КАЛІСЬЦІ.**

Цяжка сёньня забыцца пра тое,
Што калісьці было, бо й цяпер яно ёсьць:
Брат на брата гадуе ў душы зьмяю-злосьць,
Лезе ў вочы сьляпіцай-златою.

Перагрызьліся ўсе між сабою,
Асьляпіла ўсім зрок прагавітасьць-аса.
Паўз людзей праплывае-праходзіць Краса,
Ня прыносячы ў сьвет супакою.

Красавік, 1949 г.

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

**«Сьвяты Год».**

Далейшыя падрыхтоўкі да Сьвятога Году ў Рыме йдуць поўным ходам. Будуюцца дамы для паломнікаў, укладаецца каляндар урачыстасьцяў, якія будуць трываць ад 24-XII-1949 да 24-XII-1950 г. Для выгады паломнікаў будуць наладжаныя аўтабусныя спалучэньні між важнейшымі сьвятынямі і будзе адчынена першая лінія падземнае чыгункі ў Рыме.

Першы Сьвяты Год, або як яго тады звалі Юбілейны Год быў абвешчаны ў 1300 г. Потым гэткія Гады абвяшчаліся кожных 50 гадоў. Ад па-

пы Сыкста V у канцы XVI веку устаноўлена час Юбілеяў на кожных 25 год. Выняткова абвяшчачаюцца такія Гады з нагоды важнейшых угодкаў, як гэта было у 1933 г. значыць у 1900 угодкі сьмерці Хрыста.

### ПАМЁР МІТР. ДАМАСКІНОС.

Дня 20-га травеня памёр у Атэнах мітр. Дамаскінос, галава Грэцкае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ў веку 59 год. Пакойны мітрапаліт у 1944 г. займаў становішча рэгэнта Грэцыі і агулам карыстаўся вялікаю павагаю ў народзе. Ягоныя паховіны адбудуцца на дзяржаўны кошт.

### У СПРАВЕ СЬВ. МЕЙСЦ.

Пасьля нядаўнае энцыклікі сьвяцейшага Айца Пія XII ў справе ўміжнароднення Сьвятых Мейсц у Палестыне, группа бэльгійскіх манахаў з Палестыны пастанавіла разбудзіць зацікаўленьне сусьветнае апініі гэтаю справаю. Дзеля гэтага манахі зрабілі аграмадны трохмэтровы крыж з маленькай рэліквій сьв. Крыжа, атрымалі багаславенства гэтага крыжа ад Сьвяцейшага Айца і цяпер пачарзе аб'язжаюць краіны Заходняе Эўропы з адпаведнымі ўрачыстасьцямі і багаслужэньнямі ў большых гарадох.

### «КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА І КАПІТАЛІЗМ».

Пад гэткім загалоўкам нядаўна ватыканская газэта «Осэрваторэ Романо» зьмясьціла артыкул, які выклікаў шырокае водгульле на старонках шматлікіх газэт. Аўтар, названага артыкулу, сам галоўны рэдактар газэты заяўляе, што Царква заўсёды паборвала капіталізм, як сацыяльнае зло падобнае да рака на людзкім арганізьме, якое аднак ня можа быць вылечана гвалтамі камунізму. Толькі хрысьціянскія прынцыпы згодныя з эканамічнымі правамі, з якіх можа, крынічыць грамадзкі дабрабыт і раўнавага.

Наступна аўтар малюе абраз дзейнасьці Царквы супраць ненасытнага багацтва і прыгадвае, што сацыяльныя энцыклікі папаў Льва XIII і Пія XI сталі ў абароне працоўных клясаў і асудзілі капіталізм, як «грэх супраць натуры раўнавартасны абмежаваньню народзін».

Хрысьціянскі закон, які не адкідае права да дабрабыту, паказвае нам, што камунізм таксама, як эканамічная сыстэма, ёсьць па-за ўсякаю філязофіяю, хоць і ня так праціўны натуры хрысьціянізму, як капіталізм. Камунізм стаецца супрацьхрысьціянскім, калі вызнае і прыстасоўвае ў практыцы сваю бязбожнасьць. Капіталізм ня мае нейкае бязбожнае надбудовы, ён бязбожны ў самай сваёй пабудове. Ягоным богам ёсьць золата, а ня Той, Які абвесьціў, што золата адкульбы яно не паходзіла; ці з ніваў, ці з фабрыкаў, з маемасьці, ці з працы — павінна быць даступна ўсім. Дзеля гэтага абвіняць Царкву, што яна ёсьць саюзьніцаю капіталізму, раўназначна гвалчэньню праўды і ачорніваньню.

Канчаецца артыкул заўвагаю, што камунізм, паборваючы гвалтам капіталізм, гэтым ня толькі раніць здаровыя і жывыя члены грамадзянства, але не перашкаджае пашырэньню зла, бо ў такіх дзяржавах капіталізм пашыраецца далей, не зьмяняючы свае хваравлівае натуры, якая затраўлівае ўвесь грамадзкі арганізм.

### ТЫДЗЕНЬ ІНТЭЛЕКТУАЛІСТАЎ.

Стараньнем Каталіцкага Цэнтру Францускіх Інтэлектуалістаў адбыўся сёлета ў днёх 8-15 травеня ў Парыжу Тыдзень Каталіцкіх Інтэлектуалістаў пад клічом: «Вера ў Ісуса Хрыста і сучасны сьвет», з удзелам выдатных францускіх філязофаў, прафэсароў, літэратараў, мастакоў і грамадзкіх дзеячоў. Присутнічалі так-жа прадстаўнікі іншых краінаў: Англіі, Нямеччыны, Бэльгіі, Італіі, Швайцарыі і ін.

Аб аграмадным зацікаўленьні, якое выклікаў гэты Тыдзень, найлепш сьведчыць той факт, што вялікая саля, дзе адбываліся сэансы, увесь час была поўная слухачоў. А на апошнім сеансе было іх звыш 5.000.

### НАСТУП НА КАТАЛІЦКУЮ ЦАРКВУ Ў ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ.

Праскі архіяп. Бэран у сваім нядаўным пасланьні да духавенства гаворыць, што сучасны камуністычны чэхаславацкі ўрад, не зважаючы на канстытуцыю, здушвае свабоду рэлігіі.

Апошнім часам урад перашкодзіў надрукаваць, шмат якія каталіцкія публікацыі нават чыста рэлігійнага і духоўнага характару, замкнуў рэлігійныя школы, налажыў цэнзуру і нават перашкаджаў передрукаваць малітаўнікі.

У гэтым месяцы чэхаславацкія япіскапы мусілі пераваць свае нарады бо ў салі, дзе адбываліся паседжаньні, заўважаны тайны мікрафон для падслухваньня, ўмантаваны няведамай рукою.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## АНГЛІЯ.

### Зьезд БНХР.

У днёх 17-18 красавіка г.г. у Лёндане адбыўся Агульны Зьезд Беларускага Незалежніцкага Народна-Хрысьціянскага Руху. На Зьезьдзе быў зроблены агляд дзейнасьці гэтае маладое арганізацыі за мінулы год, была пераглянута праграма і ўнесены некаторыя папраўкі, намечаны плян працы на бягучы год. Уканцы быў выбраны новы кіраўнічы цэнтр, у склад якога ўвайшлі: М. Арцюх, М. Булыка. П. Дварэцкі, Ч. Кукель, А. Лашук, П. Наваро.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Вялікдзень на чужыне.

Аб тым, як няпрыемна ўражаюць нездаровыя чужыя звычаі беларускую несапсаваную натуру, вымоўна сьведчыць ніжэй зьмешчаны ліст аднаго з нашых суродзічаў у Аўстраліі.

«Сумна тут прайшоў Вялікдзень, дый наагул неяк арыгінальна і незразумела праводзяць яго аўстралійцы.. Праца і амаль уся камунікацыя прыпыняецца ў Чысты Чацьвер уначы. Пятніца, субота, Нядзеля-Вялікдзень і панядзелак вольныя ад працы. Пятніца — найбольшая ўрачыстасьць — амаль пагалоўнае п'янства і забавы. У Мэльбурне ўсе разьвесяляючыя дамы перапоўнены. Кругом фракі і балёвыя сукні. Субота чуць чуць спакайнейшая, але з вечарынкамі і віскамі. Касьцёл наведваюць мала. Нядзеля-Вялікдзень — забаваў менш, але папойка не зьмяншаецца. Панядзелак — глуха; бо адпачынак перад працаю. Вось і абрады і вера! Ці-ж можна зраўняць з абыходам такога ўрачыстага Дня ў нас? О, Божа! Праўды, тут пераважаюць англікане, як каталікі, але ў практыцы, хто іх разьбярэ. На свой Вялікдзень былі ў царкве ў Мэльборне. Службу Божую правілі трох сьвятароў у трох мовах: сірыйскай, ангельскай і царкоўна-славянскай. Але і тут чамусьці было сумна; ня было тае радасьці, якую адчуваў калісьці заўсёды ў гэтыя дні ў сябе. У царкве людзей было каля 400 асоб, з якіх каля 20 нацыяў, між імі 6 беларусаў. Сумна, вельмі сумна без свайго роднага».

### Цяжкасьці Камітэту.

Беларускі Тымчасовы Камітэт у Аўстраліі да гэтага часу мае правінцыянальны характар, бо знаходзіцца ў Імбіль, але практычна аб'ядноўвае беларусаў так-жа з іншых правінцыяў. Аднак дзеля вялікага расьсеяньня беларусаў праца Камітэту вельмі абмежаваная, а сучасны падзел эміграцыі гэтую працу яшчэ больш абцяжыў.

Да гэтага часу Камітэт змог аказаць матэрыяльную помач для прэсы і студэнтаў, ды спадзяецца на будучыню перамагчы ўсе цяжкасьці.

## КАНАДА.

### Адзьдзел ЗБК у Гамільтоне.

Лік сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе (ЗБК) з дня на дзень пабольшваецца. У зьвязку з гэтым ужо дня 24-IV г.г. заложана адзьдзел ЗБК у Гамільтоне.

### Агульны Зьезд ЗБК.

Дня 28-га г. м. мае адбыцца ў Торонто першы Агульны Зьезд сяброў Згуртованьня Беларусаў у Канадзе.

## ФРАНЦЫЯ.

### Новы Адзьдзел АБРФ.

З ініцыятывы гэнэральнага сакратара Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі (АБРФ) інж. Л. Рыдлеўскага дня 1-V г.г. быў заложаны Адзьдзел АБРФ для акругі Сэн і Оаз з аседкам у Наінвіль. На старшыню Адзьдзелу быў выбраны Г. Касьцюк, які сумленна ўзяўся за выкананьне сваіх абавязкаў.

### «Інфармацыйны Бюлетэнь САБЭ».

Рэфэрэнтура Прэсы і Інфармацыі пры Сусьветным Аб'еднаньні Беларускае Эміграцыі (САБЭ) пачала выдаваць сваю інфармацыйную публікацыю ў форме непэрыядычнага «Інфармацыйнага Бюлетэню САБЭ». Першы нумар вышаў у Парыжу за месяц травень.

### ЗЬМЕНЫ НА СТАНОВІШЧАХ.

Рэфэрэнт Прэсы і Інфармацыі пры САБЭ П. Манькоўскі ў зьвязку з працаю зьвязанаю з заканчэньнем студыяў папрасіў зволніць яго ад абавязкаў рэфэрэнта. Просьбу ягоную ўважылі, а ягонае становішча даручана сакратару САБЭ Я. Сурвіле.

## ДОБРЫЯ РАДЫ З НАРОДНАЕ МУДРАСЬЦІ.

Рабі людзям добра, табе будзе добра.
Работа і корміць і поіць.
Радасьць раны гоіць, сэрца коіць.
Раз салгаў, другі раз не паверать.
Рэдзька кажа: «І я з мёдам салодкая».
Сабака і на сонца брэша.
Свае бяды нікому не кажы, бо добры зьлякнецца, а злы пасьмяецца.
Сілаю люб ня будзеш.
Колькі смутку, столькі й радасьці.
Слова вастрэй мяча.
Сплетні хату зводзяць.
Стаячая вада гніе.
Сыты галоднаму не спагадае.
Той не ашукаецца, хто нічога ня робіць.

## З Ь М Е С Т.




Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.